# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (596) ГОД XII 21 МАЯ 1967 г. ЦАНА 60 гр.


# СЛАЎНЫ СЫН БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

**«Понеже звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведают гнезда своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чуют виры своя; пчелы и тым подобная боронят ульев своих; також и люди, и где зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имают»** (Г. Скарына, Прадмова да кнігі «Иудифь»).

Гэтыя словы, выказаныя 450 год таму, належаць да выдатнага беларускага гуманіста, чалавека бязмежна закаханага ў свой родны край, сейбіта высакародных ідэй Адраджэння на нашай ніве — Георгія Скарыны.

Выхадзец са збяднеўшай купечаскай сям'і, Георгій Скарына нарадзіўся каля 1485 года ў «слаўным горадзе Полацку». Там атрымаў грунтоўную пачатковую адукацыю, якая пры яго незвычайнай працавітасці і здольнасцях дазволіла паступіць у 1504 годзе ў Кракаўскі універсітэт на факультэт свабодных мастацтваў. Праз два гады ён ужо заканчвае універсітэт, здабываючы першую вучоную ступень бакалаўра філасофіі. На працягу некалькіх год займаецца ў вышэйшых навучальных установах Заходняй і Паўднёвай Еўропы і ў лістападзе 1512 года ва універсітэце ў італьянскім горадзе Падуі паспяхова здае экзамен па медыцыне і атрымлівае вышэйшую вучоную ступень доктара лекарскіх навук.

Ён быў верным сынам сваё эпохі, якая паклікала да жыцця не толькі геніяў прагрэсіўнай думкі, але і тытанаў дзеяння, што намагаліся неадкладна здзяйсняць у жыцці ідэі вызвалення чалавека з аковаў сярэдневяковай цемры і дэмагогіі шляхам пашырэння сярод усіх слаёў насельніцтва асветы і культуры. Таму адразу пасля заканчэння адукацыі Георгій Скарына ўсяцэла прысвячае сябе справе наладжвання друкавання кніг на беларускай мове.

(Працяг на стар. 3)



ГЕОРГІ (ФРАНЦІШАК) СКАРЫНА. З ГРАВЮРЫ 1517 Г.

**Саюз добраахвотніцкіх пажарных стражаў мае 234 святліцы, 72 клубы «Руху» ў рамізах, 16 клубаў «Рольніка», 17 духавых аркестраў, 28 тэатральных гурткоў, 7 эстрад, 472 рамізы, будаваныя грамадскім чынам.**

Новая «Варшава» дырэктара ОГП з Беластока не ў кожную пагоду даедзе ўсюды там, дзе працвітае культурная дзейнасць сярод стражакаў і вакол іх. Гэтая дзейнасць на вёсцы развіваецца ў рамізе, на базе рамізы, пры якіх цяпер заўсёды людзі будуюць святліцу. Інакш і не гаворыцца, толькі: «будуем рамізу са святліцай». А калі пры старой рамізе святліцы няма, тады яе абавязкова, раней ці пазней, дабудоўваюць.

Ездзячы, гледзячы на культурную дзейнасць у вёсках, даходзім да вываду, што найбольш сур'ёзным партнёрам культуры на вёсцы з'яўляецца пажарная стража. Яна мае і будуе грамадскім чынам кожны год за 10 мільёнаў злотых раміз, у якіх пасяляюцца розныя клубы, кіно. Яна мае тэатральныя гурткі і эстрады, уласныя аркестры. Яна творыць шырокі круг жаночых дружын, якія займаюцца санітарыяй вёскі, яе гігіенай, яе дзяцьмі, выхаваннем малых і дарослых.

Сакольскі павет належыць да лепшых па арганізацыі працы. І хоць я, не ў пору выбраўшыся ўспомненай «Варшавай», даехала толькі да Крынак, але **Юзэф Бяляўскі** — павятовы адказны за культурную дзейнасць сабе вядомымі сцежкамі і спосабамі даходзіць да далёкіх Сачкоўцаў, Мінкоўцаў, Сакалды, Задвараная, Разадранкі, Карыціна. Усё гэта вёскі, дзе робіцца многа. У Мінкоўцах арганізавалася адна з першых жаночых дружын, існуе тэатральны калектыў. Але тут няма яшчэ рамізы. Няма электрычнага святла. А тым часам мінкоўская арганізацыя працавітая і шырока вядомая.




Расспяваныя тут энергічныя дзяўчаты, з якіх **Бяляўскі** марыць стварыць хор.

Дзяўчаты ў дзейнасці сакольскай ОГП маюць асобнае месца. Дзе ў вёсцы ёсць дзяўчаты, там ёсць і работа. Яны і хлопцаў падцягваюць. У Сачкоўцах дзяўчаты на ўласную адказнасць перараймаюць святліцу, у якой дагэтуль не клеілася ніякая праца. У тых жа Сачкоўцах, расказваюць, два гады таму быў спявачы гурток. Многа спявалі беларускіх песень. Але тыя дзяўчаты павыходзілі замуж. А як замуж, дык «яна ўжо не пойдзе на дошкі сцэны. Муж не пазваляе. Яна баба».

У Разадранцы ёсць тэлевізар у стражацкай рамізе. Купілі яго так: палову грошай дала ГРН, другую — страж.

У Крынках «усемагутны і вездесушчы» дзядзя Валодзя, лоўка запарыўшы нам, «сваім гасцям», смакавітую каву, вяртаецца ў час даваенны, калі ў крынкаўскай стражы дзейнічаў. Гэтая стража, як легальная арганізацыя, гуртавала ў сваіх радах многіх камуністаў, членаў партыі. Паліцыя да іх не чаплялася, мела давер да стражы.

Крынкаўская стража купіла першы ў ваяводстве «вясковы» тэлевізар. Дзядзя Валодзя завёў нас да рамізы, крокамі мерыў кавалак зямлі, на якім маюць дабудаваць святліцу, бо тая, што ёсць, замалая для іх.

У сядзібе павятовых гайнаўскіх улад ОГП ані кроплі аптымізму. Сонным выдаецца нават яснае сонца, якое спрабуе заглянуць у брудное акно. Але на вёсцы і тут ёсць стражацкія дружыны, варты нашай увагі.

У Дубічах Царкоўных вясна. Вясна на вёсцы мае аблічча іншае. Вуліцы ў Дубічах (вуліцы без назваў), увесну і ў будні дзень пустыя. Людзей кліча поле. Памалу аднак сыходзяцца: старшыня ГРН **Мікалай Чыквін**, начальнік стражы **Іван Герасімюк**.

Раміза ў Дубічах хоць выглядае імпанууча, ужо зацесная. Тлумачаць нам гэта і старшыня, і начальнік, і іншыя. Тут зараз у наступнай зале кіно. Там.

(Працяг на стар. 5)

Багатыя яны — Дні асветы, кніжкі і прэсы ў гэтым годзе.

Спатканні, выстаўкі, лекцыі, вечарыны, канцэрты, тэатральныя спектаклі. Хіба не будзе ніводнай вёскі, дзе б што-небудзь не адбылося. Усе ўключаюцца ў майскія дні.

Выстаўкі займаюць у праграме Дзён многа месца. Налічыла аж 19 ваяводскіх выставак. Многія пасля Беластока паедуць у тэрэн.

Сярод выставак назаву некаторыя: «Нашы кантакты з СССР», «50 год Краіны Саветаў», «Савецкая кніжка і прэса, звязаная з 50 гадавінай Рэвалюцыі», «Што такое археалогія?», «Май у мастацкай фатаграфіі».

✲

У Днях адкрыта 8 гатовых, умэбляваных чытальняў пры грамадскіх бібліятэках. Абсталяваў іх аддзел культуры Прэз. ВРН у Беластоку за 80 тысяч злотых.

Міністэрства культуры і прэзідыумы павятовых рад народовых далі 230 тысяч злотых на аўдыё-візуальныя прылады для бібліятэк, святліц, дамоў культуры.

✲

Некалькі слоў аб гадавінах і людзях, якія ідуць у пары з сёлетнімі Днямі асветы, кніжкі і прэсы.

1. **Марыя Кюры-Складоўская.** Гэта вялікая польская вучоная, якая працавала ў Парыжы, (выйшла там замуж за вучонага-фізіка **Пятра Кюры**) і адкрыла радый. Радыем, як ведаем, лечым цяпер рака.

# „ДНІ" ІДУЦЬ

**М. Кюры-Складоўская** 2 разы была ўзнагароджана нобелеўскай прэміяй. Мела дзве дачкі — Ірыну і Еву. Першая пайшла следам маці і з'яўляецца вучоным-фізікам. Таксама выйшла замуж за вядомага французскага фізіка **Жаліо-Кюры**, — лаўрэата нобелеўскай прэміі. Ева напісала вялікую і цікавую кніжку пра сваю слаўную маці.

2. **Уладзіслаў Рэймант.** Другі паляк-лаўрэат нобелеўскай прэміі па літаратуры. Атрымаў яе за вялікі чатырохтомны твор «Хлопы». Гэта цікавая эпапея перамен, калі на вёску ўваходзіць капіталістычнае права. «Хлопы» з'яўляюцца абавязковай школьнай літаратурай у ліцэях.

3. **Марыя Канапніцкая.** Яна з Беласточчыны. У Сувалках стаіць яе помнік, збудаваны ўжо цяпер, намі. Унізе словы паэтэсы: „Pójdź, dziecię, ja cię uczyć każę".

**Марыя Канапніцкая** была вялікай асветніцай, вельмі чулай на нядолю дзяцей. Яе вершы дэкламуюць дзеці ўжо ў першым класе. Дзеці вельмі любяць гэтую вялікую пісьменніцу. На яе творах выхоўваліся пакаленні і цяпер збылася мара Канапніцкай, што прыйдзе час, калі дзеці бедных і голых сялянскіх і рабочых дзяцей будзе вучыцца.

4. **Тадэўш Касцюшка.** З Падляшша. Напалавіну беларус. Герой двух кантынентаў: Еўропы і Амерыкі. У Еўропе — народны герой Польшчы. Жыў у сумныя часы, калі чорныя арлы (Прусія, Расія і Аўстрыя — сімвалам іх былі арлы), рэзалі Польшчу па кавалках. **Т. Касцюшка** арганізаваў у 1794 годзе паўстанне супраць заборцаў. Паўстанне падтрымлівалі сяляне, слаўныя касінеры. Барацьба ішла за правы сялян да зямлі і народа — да свабоды. У Амерыцы змагаецца таксама супраць англічан і французаў за вызваленне Злучаных Штатаў Амерыкі. (вл)

20 мая ў клубе МПіК у Беластоку ў 18 гадзін адбудзецца літаратурны вечар, на якім выступіць паэты беластоцкага Літаратурнага клуба, ККМП і нашыя «белавежцы».

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ШТОФ ДА КІЗІНГЕРА

Старшыня Савета Міністраў ГДР В. Штоф 10 мая 1967 года накіраваў да заходнегерманскага канцлера К. Кізінгера пісьмо. У гэтым пісьме В. Штоф прапануе перагаворы ў справе нармалізацыі суадносін паміж дзвюма нямецкімі дзяржавамі.

### З ГРЭЦЫІ

У Грэцыі пануе фашысцкі тэрор. Ваенная юнта, якая ўвяла фашысцкую дыктатуру, распраўляецца з дэмакратычнымі сіламі свайго народа. Што праўда, былы прэм'ер Папандрэу за згодай юнты пакінуў бальніцу і пайшоў дамоў, то аднак надалей знаходзіцца ён у хатнім арышце. У Грэцыі афіцыяльна падаецца, што 6.130 выслана на востраў Гіарс, але лік арыштаваных у Грэцыі значна большы.

### СУКАРНА...

...былы прэзідэнт Інданезіі астаткова пазбаўлены звання шэфа дзяржавы і атрымаў указанне пакінуць палац Мердэка ў Джакарце, дзе ён жыў 22 гады.

Прэзідэнт генерал Сухарта ўказаў Сукарна, каб ён пасяліўся ў другім галоўным прэзідэнцкім палацы ў Багоры ў 65 кіламетрах ад Джакарты.

### ВОСТРАЯ ЗАЯВА У ТАНА

«З'яўляемся сведкамі ўступнай стадыі III сусветнай вайны, — драматычна заявіў У Тан. — Калі дагэтуляшні напрамак здарэнняў утрымаецца далей, у маім глыбокім пераканнні непазбежная вочная стаўка між Вашынгтонам і Пекінам, а далей між Вашынгтонам і саюзнікамі Кітая ёсць непазбежнай. Хачу таксама звярнуць увагу на падобнасць цяперашняй сітуацыі да таго, што можна б назваць парогам I і II сусветных войнаў у сэнсе псіхалагічнай атмасферы і палітычнага падыходу».

З гэтымі словамі выступіў Генеральны сакратар ААН 11 гэтага месяца ў Таварыстве Карэспандэнтаў пры ААН. Як падкрэсліваюць каментатары, было гэта найважнейшае з выступленняў У Тана на працягу яго палітычнай кар'еры. У Тан сцвердзіў таксама: «Факт, што развіваючыйся народ, што Дэмакратычная Рэспубліка В'етнам працягвае супраціўленне прэсіі намнога больш магутнай дзяржавы, быў і астаецца асноўным фактарам, які прадухіліў пашырэнне канфлікту па-за граніцы В'етнама»...

### У НЮРНБЕРГУ...

...адбыўся з'езд неагітлераўскай партыі НПД. Яе старшыня Фон Тадэн гаварыў пад голым небам да 3.000 неагітлераўцаў. У прамовах знайшлі водгук справы звязаныя з граніцамі. НПД дамагаецца граніц нямецкай дзяржавы з 1914 года. (АК)

## БССР

### 9 МАЙ

У сувязі з 22-ой гадавінай перамогі над фашысцкай Германіяй адбылося ў Мінску ўрачыстае ўскладанне вянкоў ля падножжа помніка-абеліска воінам Савецкай Арміі і партызанам Беларусі. Выканана гімны Саюза ССР і Беларускай ССР.

Ва ўрачыстасці ўскладання вянкоў прымалі ўдзел партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі Беларусі, а таксама вайсковых кіраўнікі Беларускай ваеннай акругі.

Падобная ўрачыстасць адбылася ў Брэсце на Цэнтральным востраве цытадэлі, дзе будзе пабудаваны манумент героям абароны Брэсцкай крэпасці ў 1941 годзе.

### ВЫСТУПЛЕННЕ

Беларускія газеты друкуюць выступленне старшыні Камісіі па замежных справах Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, кіраўніка беларускай дэлегацыі на V Спецыяльнай сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, **Л. Кляцкова.**

Кляцкоў выступіў за прызнанне свабоды і незалежнасці Паўднёва-Заходняй Афрыкі, былой нямецкай калоніі, якая апынулася пад уладай расістоўскай Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі.

**«Што датычыць Беларускай ССР, то яна гатова падтрымаць праведзенне адпаведных мерапрыемстваў, накіраваных на аказанне дапамогі народу Паўднёва-Заходняй Афрыкі ў справе пабудовы сваёй незалежнай дзяржавы», — сказаў Л. Кляцкоў.**

### ПЯЦІДЗЁННЫ

У сувязі з вядомымі пастановамі савецкага ўрада аб пяцідзённым рабочым тыдні, партыйнае і адміністрацыйнае кіраўніцтва горада Мінска ўстанавіла дату 15 мая як дзень, у якім уведзена пяцідзённы рабочы тыдзень для рабочых гарадскіх фабрык, прадпрыемстваў і арганізацый. Пяцідзённы рабочы тыдзень для працаўнікоў гандлю пачнецца ад 1 чэрвеня.

Як вядома, пераход на пяцідзённы рабочы тыдзень на ўсім Саюзе ССР павінен быць закончаны ў месяцы лістападзе, у сувязі з 50-ай гадавінай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

### ГАЗАВАЯ

Газавая магістраль з Сібіры ў Мінск будзе пабудавана з найбольшых труб — 1.220 міліметравых. Будаўніцтва пачнецца з галоўнага ўчастка ў аколіцы Ухта-Таржок, што пасярэдзіне гэтай гігантычнай трасы.

### ЖУРНАЛІСТЫ

Ганаровым званнем заслужанага дзеяча культуры адзначана групу журналістаў м. ін. беларускіх журналістаў — Пыжкова Васіля, рэдактара газеты «Звязда» і Суворава Кірыла, рэдактара газеты «Ленінскі прызыў» (Орша). (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### СВЯТА ВЁСКІ

У нядзелю 14 мая адзначалася традыцыйнае народнае свята. З гэтай нагоды ў музеі гісторыі польскага рэвалюцыйнага руху адкрыта выстаўку пад назвай: «Сяляне ў барацьбе з санацыяй», а ў варшаўскім Класічным тэатры адбыўся канцэрт, у якім прынялі між іншым удзел прадстаўнікі дзейнічаючых у краіне партый і грамадскіх арганізацый.

### «ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ»

З аказіі 9 мая — «Дня перамогі» Прэзідыум Агульнапольскага камітэта абаронцаў міру апублікаваў заяву, у якой між іншым чытаем:

З Польшчы, з краіны, якой кожная грудка зямлі прасякнута крывёю мільёнаў ахвяр апошняй вайны, у 22 гадавіну Дня перамогі паўтараем наш найбольш вострый пратэст і перасцярогу ў адрас тых усіх варожых чалавецтву сіл агрэсіі і рэваншу, якія пагражаюць свету яшчэ страшнейшаю вайною.

Асуджаем людабойцаў, якія парушаюць мірнае існаванне народаў, а перад усім в'етнамскага народа, заваршчыкаў супрацьь свабоды, дэмакратыі і праў народаў да самастанаўлення.

### МАЛАЧАРНІ

Да 1970 года пабудаваных будзе 56 новых малачарняў. У праектна-канструктарскім бюро «Промлеч» ідзе інтэнсіўная падрыхтоўка да новых інвестыцый. Малачарні будуць пабудаваны перад усім у Варшаве, Вроцлаве, Шчэціне і Гданьску.

### АДЗНАЧЭННІ

З аказіі «Дня дзеяча культуры» ў Міністэрстве культуры і мастацтва адбылася ўрачыстасць уручэння высокіх прызнаных Радай Дзяржавы адзначэнняў для перадавых пісьменнікаў, мастакоў, акцёраў і заслужаных дзеячоў у галіне папулярызацыі культуры.

### КІРМАШ КНІЖКІ

У днях 21—28 мая адбудзецца ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве міжнародны кірмаш кніжкі. Прыме ў ім удзел 25 краін, якія будзе прадстаўляць 2300 выдавецтваў. На кірмашы выстаўленых будзе звыш 60 тысяч тамоў, у тым ліку каля 65 працэнтаў будуць кніжак навуковых і тэхнічных. Шэраг кніжных выставак расцягнецца на даўжыню 3 кіламетраў.

### ЦАЦКІ

900 мільёнаў злотых у год выдаем на дзіцячыя цацкі. Прадбачваецца, што ў гэтым годзе гэтая сума пабольшыцца да мільярда. Зараз у продажы знаходзіцца каля 1700 розных узораў цацак. Галоўным іх прадуцэнтам з'яўляецца кааператыўная прамысловасць. Дзякуючы дзейнасці спецыяльнай камісіі, у склад якой уваходзяць мастакі, педагогі і лекары, якасць цацак пастаянна ўзрастае. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### НАРОДНАЕ СВЯТА

Як штогод сяляне ў мінулую нядзелю ўрачыста адзначалі народнае свята. У гэтым годзе галоўны яго змест вызначае: 50-тая гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і 30-тая гадавіна масавай сялянскай забастоўкі, якая ў 1937 годзе ахапіла цэлую Польшчу.

Сяляне Беласточчыны ў гонар свайго свята прымалі на сябе шматлікія каштоўныя абавязацельствы, якія склалі каля 3 мільёнаў злотых.

У нядзелю 14 мая ў многіх мясцовасцях ваяводства адбылася ўрачыстыя мітынгі. На мітынгу ў Нараўцы сабралося каля 3500 чалавек.

### У СОТУЮ ГАДАВІНУ ВУЧОНАЙ

У цэлым свеце адзначаецца сотая гадавіна з дня нараджэння выдатнай польскай вучонай Марыі Кюры-Складоўскай. З гэтай нагоды ў Беластоку 13 мая адбылася навукова-папулярная сесія прысвечаная жыццю і навуковай спадчыне нашай зямлячкі. З дакладамі выступілі вядомыя навуковыя работнікі Беластоцкай Медыцынскай Акадэміі.

### ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ

Як інфармуе Ваяводская камісія грамадскіх чынаў, жыхары Беласточчыны ў 1966 годзе выканалі грамадскім чынам столькі розных роду работ, што іх вартасць склала 172 мільёны 208 тысяч злотых — на 15% больш, як у 1965 годзе. Найбольш грамадскім чынам працавалі людзі пры пабудове дарог.

### ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС

Беластоцкае таварыства культуры, Аддзел культуры прэзідыума ВРН, Ваяводская камісія прафсаюзаў і Беластоцкае радыё аб'явілі чарговы літаратурны конкурс на апавяданне. Конкурс даступны для ўсіх. Кожны яго ўдзельнік можа дасылаць неабмежаваную колькасць твораў. Апавяданні аднак не могуць перавышаць 30-ці старонак машынапісу. Творы можна дасылаць да 30 кастрычніка г.г. па адрасу: Беласток, вул. Акадэміцкая 26, Польскае радыё.

Там жа можна атрымаць больш дакладныя інфармацыі адносна гэтага конкурсу.

### ПАСЛЯ МАТУРЫ

У беластоцкіх сярэдніх школах усіх тыпаў і напрамкаў знаходзіцца ў гэтым годзе каля 7-мі тысяч выпускнікоў. 3 300 сярод іх мае намер вучыцца далей. Найбольш ахвотных вывучаць тэхнічныя напрамкі.

### ДЗЯЎЧАТАМ З СПР-аў

Ваяводская камісія добраахвотніцкіх гуфцаў працы наладзіла ў мясцовасці Штынорт пункт, у якім могуць праходзіць стаж дзяўчаты, выпускніцы школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Заявы да 20 мая г.г. накіроўваць трэба ў Беласток, вуліца Прухняка 3. (ВР)




**Niedziela, 21.V.**

8.15 Politechnika TV; 10.00 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa”; 11.00 „Powodzenia, chłopcze” — film fab. jug.; 12.20 „Polska muzyka ludowa”; 12.40 „Gawędy wilków morskich”; 12.55 Film krótkometrażowy; 13.10 „Przemiany”; 13.40 „Piórkiem i węglem”; 14.05 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z trasy (premia górska) XI etapu (Oberwiesenthal); 14.35 „Ula i świat”; 14.55 „Estrada poetycka”; 15.45 Koncert poznańskiej orkiestry kameralnej; 16.30 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XII etapu na trasie Karl Marx-Stadt—Pilzno (168 km); 17.25 „Jazz nad Odrą”; 17.40 Felieton literacki; 18.00 Sprawozdanie sportowe; 19.45 „Dobranoc”; 19.55 Dziennik; 20.25 Program filmowy; 21.20 Międzynarodowy Konkurs Tańca; 22.20 „Niedziela sportowa”.

**Poniedziałek, 22.V.**

16.30 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XIII etapu na trasie: Pilzno — Usti nad Łabą (179 km); 17.30 Dziennik; 17.45 „Bryza”; 18.10 „Eureka”; 18.40 „Kino Krótkich Filmów”; 19.20 „Dobranoc”; 19.30 Dziennik; 20.05 Reportaż; 20.40 Teatr TV: „Dekret” Z. Skowrońskiego; 21.40 „Na półkach księgarskich”; 21.50 „Szlakiem obalonych drzew”; 22.05 Dziennik.

**Wtorek, 23.V.**

10.00 „Oskarżony” — film fab. CSRS; 12.30 Przysposobienie Rolnicze: „Układ chłodzenia silników”; 14.40 Przysposobienie Rolnicze: „Układ chłodzenia silników”; 15.20 „Dźwięczą młode głosy” — Koncert z Odessy; 15.50 Politechnika TV; 16.45 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XIV etapu na trasie Usti nad Łabą — Liberec (128 km); 17.30 Dziennik; 17.35 Dla dzieci „Zręczne ręce”. Przed kamerą — H. Grygiel; 17.50 Telekram; 18.00 „Giełda piosenki”; 18.35 „Kariera urzędnika f-my Volkswagen do Brasil” — program dokumentalny; 19.05 Telewizyjny Kurier Warszawski; 19.20 „Dobranoc”; 19.30 Dziennik; 20.05 „Oskarżony” — film fab. CSRS; 21.40 „Karol Świerczewski”; 22.05 Dziennik; 22.20 Program na jutro; 22.25 Politechnika TV.

**Środa, 24.V.**

10.00 „Swięty”; 10.55 Dla szkół (kl. VIII): Wychowanie obywatelskie: „Eksportujemy polską myśl techniczną”; 11.55 Dla szkół (kl. VIII): Fizyka: „Elementy radiotechniki”; 15.55 „Pielęgnacja ziemniaków”; 16.05 Dla dzieci: „Pan Półka i Spółka”; 16.30 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XV etapu na trasie Hradec — Karlove (155 km); 17.30 Dziennik; 17.35 „Dietetyka”; 17.45 PKF; 17.55 „Zdjęcia i ludzie” — film węg.; 18.05 „Etiudy baletowe”; 18.50 „Dobry wieczór, jak minął dzień”, 19.20 „Dobranoc”; 19.30 Dziennik; 20.05 „Święty”; 20.55 „Swiatowid”; 21.25 Dziennik; 21.40 „Plebiscyt Archimedesa” — program IV.

**Czwartek, 25.V.**

8.25 „Jumbo” — film fab. USA; 10.25 „Bonanza”; 11.15 „Beatlesi i inni” — film ang.; 12.25 Dziennik; 12.35 „Czarownice”; 13.00 „Sezam muzyczny”; 13.35 Dla dzieci: „W naturze nie ma linii prostej” — program poetycko-baletowy; 13.55 „Liga Entuzjastów Wakacji”; 14.25 Wszechnica TV: „Pejzaż i natura”; 15.00 XX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia ostatniego etapu na trasie Hradec Karlove — Praha (131 km); 16.45 „Wielcy artyści” — program muzyczny; 17.30 Sprawozdanie z finałowego meczu piłki nożnej o Puchar Europy (Lizbona); 19.20 „Dobranoc”; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr „Kobra”: „Pułapka” J. Popplewella”; 21.10 „Kiermasz w Puławach” — reportaż filmowy; 21.25 „Pierwsza próba” — film NRD; 21.55 Wiadomości sportowe.

**Piątek, 26.V.**

10.00 „Kronika jednego dnia” — film fab. radz.; 12.00 Dla szkół (kl. IV): „W starym Gdańsku”; 12.45 Dla szkół (kl. III): „Wojsko”; 16.55 Dziennik; 17.00 „Miś z okienka”; 17.15 Dla młodych widzów: Teatr Jednego Aktora; 17.30 „Przygody Robinsona Cruzoe” — film; 17.55 Magazyn Medyczny; 18.25 „Wielokropek”; 18.40 „Czwarta zmiana”; 19.20 „Dobranoc”; 19.30 Dziennik; 20.05 Telewizyjny Kurier Mazowiecki; 20.20 „Promcteusz” — film (balet węgierski); 20.45 Trybuna Telewizyjna; 21.30 Teatr TV: „Mężczyzna, czyli Ahaswer” — sztuka G. Zapolskiej; 22.20 „10 minut recenzji”; 22.30 Dziennik.

**Sobota, 27.V.**

9.00 „Proces przeciwko miastu” — film fab. wł.; 10.55 Dla szkół (kl. VII): „Ssaki”; 11.55 Dla szkół (kl. VI): Geografia: „Żuławy Wiślane”; 16.10 Program Tygodnia; 16.30 Dla nauczycieli: „Zabawa i zabawki”; 16.55 Dziennik; 17.00 Dla młodych widzów: „Sztuka myślenia” — telekonkurs psychologiczny; 17.45 „Świat, który nie może zginąć” — film; 18.10 „Po szóstej”; 18.55 „Warszawa, Ja i Ty”; 19.20 „Dobranoc”; 19.30 „Monitor”; 20.05 „Mój przyjaciel Józio” — film; 20.35 „Przedstawiamy” — program przygotowany przez Telewizję Budapeszt; 21.25 Dziennik; 21.40 Wiadomości sportowe; 21.50 „Proces przeciwko miastu” — film fab. wł.




**19 maja**

9.00 Uroczysta parada pionierów na Placu Czerwonym; 14.40 Program; 14.45 Dla dzieci; 15.30 Reportaż z Wystawy Międzynarodowej; 16.00 Zapaśnicze Mistrzostwa Europy; 17.10 „Paproć i ogień” — film; 18.30 Sztafeta nowin; 19.30 Kronika wiejska; 20.00 Spotkanie z aktorami teatrów mińskich.

**20 maja**

10.00 „Kto się śmieje ostatni” — film; 12.45 Program; 12.50 Teatr TV dla dzieci; 14.10 Wszechzwiązkowy Festiwal Twórczości Dziecięcej; 14.50 900 lat Mińska; 15.20 „Zabawki” — film dla dzieci; 15.35 Dziennik; 15.45 „Od Lutego do Października”; 16.00 Klub filmowy; 17.00 Zapaśnicze Mistrzostwa Europy; 19.30 „Wiośna mińska” — festiwal muzyczny; 20.00 „Ogoniok”.

**21 maja**

7.55 Program; 8.00 Budzik; 8.30 Gimnastyka; 9.00 Program żołnierski; 9.30 Muzeum Sztuki im. Puszkina; 10.00 Program dziecięcy z NRD; 11.00 „Białe i czarne”; 11.30 Szkatułka muzyczna; 11.50 Z historii poczty białoruskiej; 12.20 „Ciekawe dla wszystkich”; 13.00 „Nocna zmiana” — film dokumentalny; 13.15 Moda młodzieżowa; 13.55 „Przyjaźń”; 14.25 „Estrada-67”; 15.20 Program satyryczny; 15.45 Przegląd filmowy; 16.40 Zapaśnicze Mistrzostwa Europy; 19.00 „Mecz bez remisu” — film; 20.35 Śpiewa G. Ots.

БЕЛАРУСІЯНА

У «Месячніку літэрацкім» № 4/8 апублікаваны ўрывак аповесці «Перад усім, жыць» Рышарда Міхальскага. Аповесць, безумоўна, аўтабіяграфічная. Аўтар паходзіць з польска-беларускага пагранічча ў Люблінскім ваяводстве.

Піша:

«Старыя людзі, якія свае веды чэрпаюць з замілаванасці грабсціся ў даўно забытых паперах тутэйшага каноніка, кажуць, што іх мястэчка мела некалі шанцы. І зусім не ў сівой мінуўшчыне, калі гэта зямля з'яўлялася

## З БЕЛАРУСКІХ АКОЛІЦ

найдалей на захад высунутай ускраінай Вялікага Літоўскага Княства, і нат' не тады, калі менавіта тут пад апекаю магутных Ляшчынскіх адбываліся з'езды кальвінаў з усяе Кароны і Літвы, ані калі панам горада і ўрадлівай аколіцы стаўся гетман і віленскі ваявода Людвік Пацей. Старыя людзі паўтараюць за тутэйшым канонікам, што гэта Яну III, пераможцы з-пад Вены, можна б дзякаваць за магчымасці развіцця мястэчка, калі б, вядома, іначай пайшла гісторыя. А так, засталася адна памяць вялікіх кірмашоў на святога Міхайла, у час якіх бывала па дваццаць і больш тысяч штук быдла, коней, авец, валоў з Украіны, Валыні і з цэлага Падляшша...»

Міхальскі піша, як можна здагадвацца, аб блізкіх яму аколіцах Уладавы, ля цяперашняй польска-беларускай граніцы — старой граніцы колішняга Вялікага Літоўскага Княства. С.Я.

## ЭТНАГРАФІЯ



Ганак Сымона Грыгарука з вёскі Цялушкі, Бельскага павета. Фота: Уладзімір Юзвюк.





## ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

**ШТО НОВАГА?**

Зноў 23 купоны прыслала Бельская павятовая бібліятэка. Былі гэта купоны з Москаўцаў, Плёскаў і Рыбалаў.

* * *

Даходзяць слухі ад бібліятэкараў, што людзі ахвотна чытаюць беларускія кніжкі, але менш ахвотна выпаўняюць купоны. Чаму? Найбольш таму, што, як кажуць, «кепска пішу па-беларуску». Выясняем тады; **выпаўняйце як умееце, абы цікавымі былі вашы ўласныя думкі. Бо ў конкурсе арыгінальнасць думкі цэніцца найбольш. За арыгінальныя думкі будуць узнагароды.**

**ТППР НА КОНКУРС**

Атрымала рэдакцыя пісьмо ад Ваяводскага праўлення ТППР у Беластоку: «ТППР уключаецца ў конкурс і на ўзнагароды прызнае 500 зл.». Мы дзякуем.

**ПРЫПАМІНАЕМ!**

**УЗНАГАРОДЫ Ў КОНКУРСЕ:**

**Адаптар,**
**транзістарнае радыё,**
**ручныя гадзіннікі,**
**камплекты грампласцінак,**
**аўтаручкі,**
**даўгапісы,**
**прадметы штодзённага карыстання,**
**камплекты кніжак.**

**ШТО ЧЫТАЦЬ**

**ЯНКА КУПАЛА**
**«Сон на кургане»** — паэма.
**«На папасе»** — паэма.
**«Раскіданае гняздо»** — драма.
Творы знойдзеце ў «Зборы твораў», тамы V і VI.
**ЯКУБ КОЛАС**
**«У палескай глушы».**
**«У глыбі Палесся».**
**«На ростанях»**
Гэта трылогія ў прозе, але будзе лічыцца ў конкурсе і адна пазіцыя з трылогіі.
Творы ў «Зборы твораў».
**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ**
**«У дрымучых лясах»** — аповесць.
**ПІЛІП ПЕСТРАК**
**«Сустрэнемся на барыкадах»** — раман.
**МАКСІМ ТАНК**
**«Нарач»** — паэма вершам.

## КУПОН

1. Назаві аўтара і загаловак вершаванага твора
..........................................................................
2. Назаві двух аўтараў і загалоўкі кніжак прозай
а) ..........................................................................
б) ..........................................................................
3. Напішы, ці выбраныя творы табе падабаліся і чаму ..........................................................................
..........................................................................
..........................................................................
..........................................................................
..........................................................................
4. Напішы, дзе ўзяў кніжкі да чытання (публічная бібліятэка, уласная ці купіў) ..........................................................................
..........................................................................
5. Імя і прозвішча ..........................................................................
6. Адрас ..........................................................................
7. Прафесія ..........................................................................
8. Колькі год ..........................................................................

Запоўні купон і аддай яго бібліятэкару ў публічнай бібліятэцы або прышлі ў рэдакцыю «Нівы» да 1.10.1967 года.

(Працяг са стар. 1)

# СЛАЎНЫ СЫН БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

У выніку некалькігадовых клопатаў пра грашовыя сродкі, падрыхтоўку і пераклад тэкстаў, абсталяванне друкарні і паперу ён засноўвае першую беларускую друкарню ў чэшскай Празе і ў 1517 годзе выпускае ў свет першыя беларускія друкаваныя кнігі. Адрасаваў ён іх, «людем посполитым к доброму научению». За два гады (ад 1517 па 1519 гг.) Георгій Скарына выдаў «Псалтыр» і паасобку 22 кнігі «Біблії».

Аднак, нягледзячы на выключную паспяховасць друкарскай справы ў Празе і прыхільныя адносіны чэшскага асяроддзя, Георгій Скарына імкнецца быць бліжэй да родных мясцін.

У часе паміж 1520 і 1525 гадамі ён робіць захады аб адкрыцці друкарні ў Вільні, сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, у склад якога ўваходзілі беларускія землі. Перавозіць туды з Прагі сваю друкарню і ў 1525 годзе друкуе там «Апостал» і «Малую падарожную кніжыцу».

У хуткім часе выданні Георгія Скарыны пашыраюцца па ўсёй Славяншчыне. Яны вандруюць па ўсяму Вялікаму Княству Літоўскаму, пашыраюцца ў суседнім Маскоўскім княстве, трапляюць у Польшчу, Малдавію, Румынію, Германію і іншыя краіны Заходняй Еўропы. Усюды яны з'яўляюцца не толькі ўзорам дасканалай як на тыя часы тэхнікі кнігадрукавання, але і прыкладам самаадданага служэння адукаванага чалавека свайму народу.

Асоба Георгія Скарыны карыстаецца вялікім аўтарытэтам і пашанай не толькі ў Вялікім Княстве Літоўскім, але па-за яго межамі. У 1530 годзе прускі герцаг Альбрэхт запрашае беларускага першадрукара да сябе, называючы яго «мужам непараўнанага розуму, найвучонейшым доктарам мастацтваў і медыцыны». Затым кароль чэшскі Фердынанд запрашае Георгія Скарыну на свой двор і даручае яму абавязкі каралеўскага батаніка і медыка. Гэтую пасаду абымае Георгій Скарына ў 1534 годзе, і там, у Празе памірае каля 1550 года.

З прадмоў і пасляслоўя да паасобных выданняў відаць, што Георгій Скарына імкнецца падказаць чытачу, каб той шукаў у гэтых кнігах не звышнатуральнага, бо яны «людскими пильностями пописаны были», г.зн. што яны самі вынік працы людзей, умудроных жыццёвым вопытам, але шукаў зёран навуковых звестак і праўды дзеля свае адукацыі, таму што без «мудрости и без добрых обычаев несть мощно почтиве жыти людем посполитым на земли». Ён верыць у дапытлівасць чытача і яго ўменне знаходзіць праўду жыцця калі «... иными словы всегда иную мудрость и наўку знаменуют, а иначеи ся разумеют нежели молвлены бывают, и больши по себе сокрытых тайн замыкають нежели ся словами пишуть. Есть бо во всих причтах сокрыта мудрость якобы моц во драгом камени, и яко злато в земли, и ядро у ворехy...» Ён ставіць у прыклад цара Саламона, што «не просил собе дней многих, ни богатества, ни же душ врагов, но ждал собе мудрости»; пахваляе Пталамея за тое, што той «был милосник науки и мудрости, иже болей избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и паметь свою, нежели во тленных великих царских сокровищах». Аднак, паводле Скарыны, кожны чалавек павінен жыць не толькі для самога сябе, але сваёй дзейнасцю як мага болей прынесці карысці свайму народу, бо «не толико сами собе нарождвомся на свет», але перад усім для «посполитого доброго». Ён заклікае чытачоў, каб яны «всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали» (не шкадавалі — МГ). Таксама і свае клопаты аб пашырэнні асветы і культуры ў родным краі тлумачыць Скарына патрыятычнымі матывамі: «наиболее с тое причины, иже мя милостивый бог с того языка на свет пустил», і суайчыннікам сваім «сие малые книжки праци нашее приносимо...»

Сотні навуковых даследванняў і артыкулаў, дзесяткі аповесцей, апавяданняў, п'ес і вершаў прысвяцілі вучоныя і пісьменнікі гэтаму вялікаму чалавеку, які ўславіў наш народ далёка па-за межамі беларускай зямлі. Аднак ніколі не згасне ў нашай навуцы і літаратуры зацікаўленне гэтай шляхетнай постаццю, вучоным і дзеячом, які з'яўляецца гордасцю нашага народа.

**Мікалай Гайдук**
Бельск Падляшскі

## Тэатр „Свершч" у тэрэне

20 мая папулярны лялькавы тэатр з Беластока «Свершч» дасць спектакль у Гарадку. Будзе гэта гісторыя «Котка Протка» — цікавая для дзяцей.

Наш Беластоцкі лялькавы тэатр спецыялізуецца ў добрых пастаноўках для дзяцей. (вл)


© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

 

ЛЮДЗІ і ЧАС

# З АНДРЭЕМ БЫЛО ПА-РОЗНАМУ

Дзядзька Андрэй завёў мяне ў асобны пакой сваёй абшырнай хаты і пачаў расказ штыўна і афіцыйна:

— «Называюся Андрэй Фіонік, нарадзіўся ў 1896 годзе ў Кошках. Бацька мой...»

Ці ж варта аднак рабіць пераказ дзядзькавай біяграфіі, біяграфіі тыповай і звычайнай нават у сваіх незвычайнасцях, такіх, як выезд у Расію, рэвалюцыя, чарговыя войны і г.д. Не варта. Таму пачнем ад таго месца, калі дзядзька Андрэй кончыў пераказ сваёй біяграфіі і пачаў звычайную размову аб сваіх шчаслівых і нешчаслівых падзеях, здарэннях і прыгодах.

Трапіў тады Андрэй Фіонік у 1915 годзе, як большасць нашых сялян, у Расію. Папаў у армію, найперш у пяхоту, потым пераведзены быў у Заамурскую конна-горную артылерыю і ўрэшце трапіў на Румынскі фронт. Аднойчы армія, у якой ваяваў, атрымала паражэнне, і Фіонік, баючыся здацца ў палон, 3 сутак праляжаў на полі бою пад гурбою трупаў. Шчасліва здарылася, што рускія вярнуліся і Фіонік, адчуўшы гэта, вярнуўся са свету мёртвых.

Склалася, што атрад, у якім служыў Фіонік, быў заўсёды на баку рэвалюцыі. Лютавая рэвалюцыя 1917 года застала Фіоніка ў Арле. Фіонік атрымаў прыказ сядлаць каня і паехаў выпускаць турэмшчыкаў з мясцовых турмаў. Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя сустрэла яго ў Адэсе. Прыняў ён удзел у барацьбе са збунтаванымі супраць савецкай уладзе элементамі.

Вярнуўшыся на радзіму жыў Фіонік наогул бедна. Арэндаваў папоўскую зямлю і стараўся неяк, як кажуць, вязаць канец з канцом.



Дзядзька Андрэй з Кошкаў.

Калі прышла савецкая ўлада Фіонік стаўся адным з яе мясцовых актывістаў. Выбралі яго солтысам. Працаваў, як мог, арганізаваў новы парадак на малым адрэзку роднай вёскі Кошкі. Здарылася аднак з ім дзіўнае няшчасце, якога Фіонік да сённяшняга дня не можа зразумець. Аднойчы старэйшы сын Андрэя перад тым, як выгнаць каровы на пашу, пайшоў недзе прайсціся. Доўга не вяртаўся. Каровы прышлося пудзіць самому бацьку. Сын аднак не вярнуўся па сённяшні дзень. Бацькі не атрымалі найменшай звесткі, дзе і што магло з ім стацца. Вядома, быў гэта час не толькі радасці і энтузіязму, але і падазрэнняў, і недавераў. Меў і дзядзька Андрэй нямала ворагаў. Хтосьці мабыць напісаў на дзядзьку данос, быццам бы сын яго перакрочыў савецка-нямецкую мяжу і знаходзіцца на акупаванай немцамі тэрыторыі. Так ці інакш аднойчы апоўначы застукалі ў фіонікавыя дзверы. Фіонік доўга мітусіўся па хаце ды не хацеў упускаць — не ведаў хто. Увайшлі, паказалі дакументы — усё ясна. Зрабілі вобыск — знайшлі толькі вынікі шчырай фіонікавай працы і адданасці. сцяг, з якім вітаў ён з групай аднавяскоўцаў савецкую ўладу, і вялікі пакет аблігацый дзяржаўнай пазыкі падпісаны мясцовымі сялянамі. Фіонік не хацеў нават нічога ладаваць, заладавалі самі. На раніцу быў ужо ў Беластоку.

Дзядзька доўга расказвае аб тым, якімі добрымі людзьмі былі экскартуючыя, якія шчыра верылі ў Андрэеву нявіннасць. У нявіннасць шчыра верыў і нейкі высокі, які ведаў раней Фіоніка, начальнік, які сустрэў яго ўжо па дарозе ў Беласток. Праўдападобна прабаваў інтэрвеніраваць у дзядзькавай справе ў Мінску. Нейкі суровы высокі прыказ вырашыў усё — дзядзька апынуўся ў заалтайскай краіне.

Зрэшты, некалькі дзён пазней успыхнула вайна і дзядзька Андрэй быў шчыра задаволены са свайго лёсу. Вядома, што рабілі немцы з камуністамі — расстрэльвалі на месцы. Расстралялі б мабыць і Андрэя Фіоніка. А ў заалтайскай краіне жылося нават не найгорш.

Дзядзька звычайна працаваў у саўгасе, меў тут нямала землякоў, успамінае нават аб цэлай вёсцы заселенай беларусамі з Польшчы.

Калі пасля другой сусветнай вайны Андрэй Фіонік вярнуўся ў хату, усё здавалася быць на якнайлепшай дарозе. Атрымаў ён на ўласнасць папоўскую зямлю, якую раней арэндаваў, ды пачаў гаспадарыцца па-сапраўднаму. У 1955 годзе сустрэла аднак дзядзьку новая трагедыя. Другі з яго сыноў, які быў вайсковым парашутыстам, меў няшчасны выпадак — не развязаўся яму ўпору парашут і парашутысту лопнулі лёгкія. Вярнуўся ў бацькаўскую хату, паляжаў крыху ды памёр. Асталіся па ім толькі даволі дзіўныя, хаця на свой спосаб прыгожыя, карціны на сценах бацькаўскай хаты. Сын любіў і ўмеў маляваць.

Зараз Андрэй Фіонік жыве з трэцім сваім сынам. Сядзіць дзядзька Андрэй пераважна ў хаце, ды аглядае тэлевізар. А з госцем любіць пагутарыць аб добрым і паганым у бурлівым сваім жыцці.

**Ул. Паўлючук**
Фота: аўтар

# СУПОЛЬНЫЯ НАМАГАННІ

У мінулым годзе ў дарожных выпадках на Беласточчыне было забіта 71 чалавек і 480 паранена. Параўноўваючы з 1965 годам гэта азначае, што мінулы год прынёс на 10 асоб больш забітых і 22 параненых.

Сапраўды, гэтыя лікі марозяць кроў у жылах. Хоць, гледзячы з боку органаў кантролю дарожнага руху, узрост колькасці дарожных выпадкаў, у параўнанні з узростам колькасці машын, не надта вялікі.

А калі не вялікі, дык чыя ж тут заслуга? Заслуга здаецца быць агульнай — усіх. На ўвагу заслугоўвае тое, што створаны да гэтага ваяводскі калектыў сумеў зацікавіць праблематыкай бяспекі на дарогах шырокія кругі грамадства і адпаведныя тэрэновыя ўлады. Падкрэсліваю, тэрэновыя ўлады, таму што ад іх у многім залежыць і арганізацыя і пэўныя фінансавыя ўклады на бяспеку на дарогах.

У сувязі з тым, што найбольш выпадкаў здараецца ў гарадах, ваяводскі каардынацыйны калектыў па справах бяспекі дарожнага руху распісаў конкурс «Горад з найбольш бяспечным дарожным рухам». За першае месца змагалася 24 гарады (на 32 у ваяводстве). Не будзем апісваць усіх дасягненняў конкурсу, звернем увагу на некаторыя. Для дзяцей у гарадах прымаючых удзел у конкурсе, пабудавана 13 пляцовак для гульняў. 16 каткоў, 6 санных горак і інш. Кошт гэтых прац — 361.548 зл., з чаго грамадскім чынам выканана праца на суму 123.035 зл. Агульны кошт працы, выкананай у рамках конкурсу, — 3.625.158 зл., з чаго 689. 811 зл. прыпадае на працу грамадскім чынам.

Неабходна паінфармаваць, што найбольш бяспечнымі гарадамі з'яўляюцца: Алецка, Бельск і Чорна-Беластоцкая, чацвёртае месца — Сямяцічы, а VI — Саколка. За першыя тры месцы прадбачваюцца ўзнагароды: 1—100 000 зл., II — 50 000, III — 30 000 зл. Грошы за ўзнагароды будуць прызначаны на паляпшэнне бяспекі на дарогах.

Добра было б, каб услед за конкурснымі вынікамі паменшылася колькасць дарожных выпадкаў. (ак)



# ТАМ, ДЗЕ ЧАЛАВЕК ЧАЛАВЕКУ БРАТ

Лозунг сёлеташняга тыдня ПЦК у маі быў такі: «ПЦК ахоўвае здароўе, перасцерагае ад выпадкаў, ратуе жыццё!»

Гэты лозунг акрэслівае галоўныя напрамкі працы ПЦК — вялікай гуманітарнай арганізацыі, якая ў 1969 годзе будзе ўрачыста святкаваць свае 50 год.

У бурным нашым развіцці і жыцці маем людзей, якія патрабуюць дапамогі, апекі: старых, хворых, пакалечаных, пакрыўджаных. ПЦК сваёю дзейнасцю нясе ім радасць і словы пацехі: арганізуе санітарныя курсы, апеку, кровадаўства.

Адносна кровадаўства. Шпіталі і хворыя патрабуюць усё больш крыві. Нямысліма цяпер цяжкая аперацыя (аперацыйна лечыцца ўсё больш хвароб) без крыві. У мінулым годзе сабрана на Беласточчыне ад ганаровых донараў 5500 літраў крыві. Гэта было толькі 48 працэнтаў патрэб беластоцкага лячніцтва. На захадзе краіны бярэцца 80% бясплатнай крыві.

Вельмі мала бясплатнай крыві для лячніцтва дае вёска. Вельмі мала аддаюць сваёй крыві жанчыны. ПЦК мае моцную падпору ў школах і то пачатковых. Але цяперашнія формы працы ПЦК больш створаны для дарослых. Таму дарослыя людзі добрай волі павінны больш гуртавацца вакол гэтай арганізацыі.

Справа т. зв. «пшодовніц здароўя», якіх многа вывучае і пасылае на вёску ПЦК, будзе ўладжана так, што іх дзейнасць на вёсцы павяжацца з асродкамі здароўя. «Пшадоўніцы здароўя» нясуць дапамогу бясплатна і пашыраюць санітарную асвету на вёсцы. Таксама сёстры хуткай дапамогі ПЦК будуць паволі з'яўляцца на вёсцы. Гэтыя сёстры апякуюцца хворымі па хатах. Гадзіна такой апекі каштуе 5 злотых, а ў выпадках асабліва цяжкіх сястру аплачвае ПЦК.

ПЦК дае вялікія практычныя карысці. Але гэта арганізацыя, якая патрабуе адданых людзей. Людзей адданых людзям. Тут, у ПЦК, чалавек чалавеку брат! (вл)

А. Баршчэўскі, В. Швед




Хрэстаматыя для VIII кл.

## КРЫНІЦА

Можа вы і не паверыце, што гэта ўсё праўда. Але ці так яно было, ці не так — спрачацца не буду. Скажу проста гэтая крынічка напэўна частавала сваёю вадою яшчэ вашых дзядоў-прадзедаў. Яе вада — найчысцейшыя слёзы веснавых хмарак, што ад узнікнення свету ходзяць над зямлёю такімі прыгожымі чародкамі. Яе беражкі — аксамітныя межы, з-пад гэтых аксамітаў ззяе золата жоўтых пяскоў.

А тыя землі, што ляжалі побач! Колькі хараства, колькі мудрага задумення было ў іх!

Не дзіва, што тут, каля крынічкі, кіпела жыццё, бо кожнаму хацелася стаць бліжэй да вады, каб палюбавацца на сваё ўласнае хараство ў яе люстры, як гэта любілі рабіць прыгожыя краскі. Другім хацелася паслухаць цікавую музыку, якую складалі дробненькія хвалькі, скачучы з каменьчыка на каменьчык, трэція блукалі тут, каб крыху адпачыць у прахалодзе бліскучых хваль, чацвёртыя гарнуліся сюды — проста гледзячы на другіх.

Але крынічка была такая скромная, такая сарамяжлівая, што нават не звярачала ўвагі на сябе самую і ніколечкі не ганарылася сабою. Цякла і цякла сабе туды, куды несла яе нязначная сіла, нават і не думаючы пра тое, якую важную ролю ў аб'яднанні жыцця выконвала яна. А тая гара, што дала ёй пачатак жыцця, пазірала на яе з любасцю і гордасцю маці. Часамі яе жоўтыя камяністыя схілы асвятляліся такою радасцю, такою ўсмешкаю здавальнення, што ўсім рабілася лёгка, добра, ціха, мірна. Найчасцей гэта здаралася тады, калі ўсё вакол пачынала абуджацца пасля ночы. З-за далёкіх рубяжоў зямлі, дзе неба так нізка нахіляецца да яе, уздымалася залатая карона, яе агнявістыя бліскучыя праменні, як стрэлы разляталіся па зямлі і па небе. Лясны жаваранак і салавейка ў цяністых кустах стараліся навыперадкі павітаць сонейка першымі, і песні іх дрыжалі прыгожай музыкаю ў хвалях паветра ціхай раніцы. І трудна было сказаць, хто з іх лепей спявае.

Але часы змяніліся, і часамі нейкі смутак ахопліваў гару. Тады яна агортвалася сіваю намёткаю туману і аб нечым моцна тужыла.

Ніхто не ведаў, якія прычыны засмучалі гэтую добрую горку. А гара — маці, як відаць, думала аб далейшай долі свае дачкі. Чулае матчына сэрца адгадвала тое, чаго так часта не можа прадбачыць нават сталы розум, узбагачаны веданнем з'яў і ўмоў жыцця.

— Ах, дачушка, дачушка! — уздыхала гара.

— Чаго, матулечка, так цяжка ўздыхаеш? — пытала крынічка.

— Эх, любачка! Ты яшчэ мала жывеш на свеце і шмат чаго не цяміш, блазніца. А я, стоячы тут з незапомных часоў, навучылася бачыць тое, чаго не бачыш ні ты сама, ні гэтыя пышныя і крыху надзіманыя дубы, ні наогул усе большыя і меншыя тутэйшыя жыхары. Толькі людзі, і то не ўсе, а самыя сталыя, самыя разумныя з іх, што пільна і пранікнёна ўглядаюцца ў кнігу жыцця зямлі, могуць трошкі разбірацца ў гэтых справах.

— Што ж ты хочаш сказаць, матуля?

— Мілая дачушка! Даўно я заўважаю, што ў зямлі дзеецца штось нядобрае. Чуе маё сэрца, што нейкая сіла рыхтуецца павясці цябе па другой дарозе.

— А што можа рабіцца ў зямлі? — спытала здзіўленая і зацікаўленая крынічка. — Зямля такая спакойная, нерухомая, як быццам зусім акамянела і застыла.

Слухалі травы, слухалі краскі, слухаў ракітнік і лазняк, птушкі, нават салавейка прыпыніў сваю песню і прыслухоўваўся да гэтай размовы. Усім здавалася, што нікога на свеце няма разумнейшага за крынічку, бо аб такіх цікавых і мудрых рэчах гаманіла з імі яна! А тут і крынічка шмат чаго не ведае. І ўсе замерлі — так уважліва слухалі яны гэтую гаворку.

— Эх, неразумнае дзіцятка! — сказала гара. — Гэта толькі павярхоўнаму воку не відно нічога. Зямля жыве, у яе жыцці многа-многа змен, толькі ж яны выяўляюцца так павольна, так непрыкметна, і на першы погляд здаецца, што яна скончыла кола свайго існавання. А ты вазьмі вецер: чаго толькі ні робіць ён. А гэтыя прыгожыя хмаркі, што любяць так часта прапаўзаць над намі, каб адбіцца ў люстры тваё чыстай вады! А іншыя схаваныя ў нетрах зямлі сілы! Але не ў гэтым справа, пра гэта мы пагаворым другім разам. Справа ж у тым, што цябе хочуць павярнуць на другую дарогу.

— А чым жа, матуля, гэта кепска? Ну, і пайду, і пабягу ў другіх берагах... Скажу табе, родная, мне і самой хацелася паглядзець на другія краіны белага свету.

Засмуцілася старая гара, пацямнелі яе прыгожыя схілы, бо вечар павольна апускаўся на зямлю і за далёкімі пагоркамі хавалася сонца.

— Я мушу перасцерагчы цябе, дачушка, — зноў сказала гара. — Наўперад ты добра падумай, а ўжо тады выбірай свой лёс. Ніхто, дачушка, не мо-



 

 

**У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ**

# УЦЁК ПАД МАКСІМАВУ СТРАХУ

Беласток — родны горад маёй дачкі, горад майго шчасця — авансу. Штодзень крокамі мераю працягласць гэтых самых вуліц, пратоптваю сцяжыну, раздзяляючую ложак майго адпачынку ад стала з мяккім крэслам у маім бюро. Штодзень тапчу гэтыя самыя вуліцы, безнадзейна прабуючы сцерці мяккай падошвай цвёрды камень гарадскога тратуара, пакінуць у ім пратоптаны след, адзіны след па-сапраўднаму трывалы.

Адмерваю тады штодзённа з годнасцю і павагаю адлегласць ад маёй хаты да майго бюро. Хата мая называецца «блёкам» і складаецца з двухсот кватэр. У двухстах кватэрах маёй хаты-блёку дзвесце тэлевізараў, дзвесце нізкіх столікаў, дзвесце канапаў, дзвесце балконаў з фіранкамі, дзвесце халадзільнікаў, пыласосаў і людзей, як я, пакінуўшых вёску і прабаваўшых настойліва і безнадзейна пратаптаць у каменным гарадскім тратуары сваю ўласную сцяжыну.

Безнадзейна, бо па маёй сцяжыне топчацца штодзённа шматтысячны натоўп, сцірае ён марны след, зраўноўвае, выгладжвае, нішчыць. Астаецца гладкая, шліфаваная паверхня гарадской вуліцы.

У двухстах кватэрах маёй хаты ўсё выраўнанае і адшліфаванае: жэсты, пажаданні, злосць, радасць і нянавісць. Усе ў маёй хаце захапляюцца «кобраю» і «доктарам Кільдэрам», нейлонавымі блузкамі і кашулямі «нон-айрон», бліскучымі шафамі і ўзорыстымі дыванамі. Усе ў маёй хаце злуюцца на доўгія чэргі ў крамах, на дождж улетку і на мароз зімою, на дрэннае выкананне вокан у хаце-блёку, на бюракратыю і зладзействы, на паражэнні нашых спартсменаў у міжнародных матчах. Усе ў маёй хаце-блёку мараць аб навейшых мадэлях аўтамашын, аб шалёных гульнях, гарачых курортах і буйных сямейных здрадах. У сапраўднасці аднак вядуць жыццё значна менш бурлівае: залётна ўсміхаюцца да сакратарак з бюро, сварацца з жонкамі, у нядзелю выходзяць з дзяцьмі на шпацыр. Папаўняюць тады гарадскую вуліцу — стракатую, напышчаную моднымі капелюшамі, вуліцу шмінкаваную, пудраваную, крэмаваную і перфумаваную, вуліцу ананімнага бясшталтнага натоўпу.

Людзі маёй хаты не з'яўляюцца ні анархістамі, ні бунтарамі. Людзі з маёй хаты — як і з суседніх хатаў-блёкаў — людзі звычайныя. Выходзячы ў нядзельны гарадскі натоўп прыбіраюцца так, каб не зневажаць прынятага, паўсюднага пачуцця ладу, саліднасці, парадку і прыгажосці. Прыбіраюцца салідна, уладкавана, па меры багата з падкрэсленнем сваёй уладкаванасці, саліднасці, стабілізаванасці. Прыбіраюцца так, як дзевяноста дзевяць працэнтаў нядзельнага натоўпу Беластока.

Таму натоўп гэты ананімны, бясшталтны і бясколерны ў бязмежнай сваёй стракатасці і шматколернасці.

У бліскучых ботах, у кашулях «нон-айрон», у плашчах з артальёну ідуць яны — інжынеры, лекары, бухгалтары, муляры, сталяры, шаўцы, канцылярысты, мае суседзі і суседзі маіх суседзяў. Не разрозніць у нядзельным натоўпе ні станаў, ні ўзроўняў, ні светапогляду, ні нацыянальнасці, ні прафесіі. Не разрозніш тут прафесара ад працаўніка прадпрыемства ачысткі горада. З гарадскім натоўпам нельга паразумецца. Праходзіцца праз яго ананімна ў адзіночку. Бо гарадскі натоўп не складаецца з канкрэтных людзей, а з асоб выабстрактаваных з канкрэтнасці, з асоб-сімвалаў гарадскосці. Хто ён, мой сусед з гарадскога натоўпу: злодзей ці альтруіст, шавец ці прафесар, клерыкал ці бязбожнік? Уласціваe яго аблічча, уласная асабовасць скрыта пад гэтай напышчанай маскай прахожага гарадской, святочнай вуліцы.

Што ж тады рабіць таму, хто не хоча расплысціся ў ананімнай стыхіі натоўпу, хто не годзіцца з фактам, што сцежка яго жыцця безупынна затоптваецца натоўпам, хто жадае кантакту з людзьмі, а не з постацямі-сімваламі?

Можна зрабіць па-рознаму. Можна загадаваць бараду, запусціць валасы, можна зняважыць натоўп брудною кашуляю, аблепленымі граззю ботамі, нядбайнай прычоскай.

Я маю аднак іншы спосаб: еду ў вёску да дзядзькі свайго, Максіма. Максім запаліць нафтавую лямпу, — адну з апошніх нафтавых лямпаў, — ды пачне са мною гутарыць. Гутарку нямудрую, беспрэтэнсіянальную, звычайную, сялянскую. У гэтай аднак маленькай і ўбогай дзядзькавай хатцы, асветленай скупым святлом дзядзькавай лямпы, знаходжу часовае сховішча для мараў, адчуванняў і ўяўленняў арыгінальных і непаўторных, не сапсаваных і не знішчаных універсальнай, уніфармістычнай, татальнай тэлевізійна-гарадской цывілізацыяй, цывілізацыяй робатаў, аўтаматаў і спартыўных матчаў.

**Рыгор Паўлюк**

---

жа стрымаць твайго жадання, і ты пойдзеш туды, куды цябе так цягне твая цікавасць. Ты пойдзеш у другі бок, у другія краі панясеш сваю ваду. Праўда, ты спаткаеш шмат новых з'яў, угледзіш тое, што табе і не снілася. Але памятай, успомніш ты сваю старую матку, успомніш аксаміты тваіх беражкоў і залатое сваё дно, і моцна-моцна пацягне цябе сюды, бо сярод чужынцаў ты згубіш свой воблік, сатрэшся з твару зямлі. А я тут буду стаяць адна, і туга разлукі з табою высушыць маё сэрца. Ты паглядзі, вунь там, бачыш, стаяць горы, а на іх расце лес. Гэта ўсё мае сваячкі, і не сягоння-заўтра яны, таксама як і я, дадуць пачаткі новым крынічкам. Яны будуць бегчы сюды і калі б ты пачакала, дык яны зліліся б з табою: нахіл зямлі якраз ідзе ў гэты бок. Тады б вы сталі магутнай ракою, і ў гурце вам не страшна было б каціцца ў свет. Вас ніхто не адолее, і вы не страціце сябе на чужыне. Вы б ажывілі ўвесь гэты край, ён стаў бы багатым на зайздрасць чужынцам. І яшчэ скажу табе адно: калі ты пачуеш, як здрыгнецца вада, дык хутчэй, як мага старайся перарэзаць, прабегчы абвал, які ляжа ўпоперак твае дарогі, і тады пацячэш па старым жолабе. А не зробіш гэтага, дык ужо будзеш прымушана звярнуць на другую дарогу, куды цябе горне гэтае няяснае, такое павабнае жаданне навіны.

**Якуб Колас**

**(Заканчэнне за тыдзень)**

---

## З нівы прыяцеляў Белавежы

Варта ў Дні асветы, кніжкі і прэсы яшчэ раз падкрэсліць многасць цікавых спраў і форм у асветнай працы Таварыства прыяцеляў Белавежы. Іх праца якраз асветная. Усё, што робяць, служыць пашырэнню ведаў слухачоў ці гледачоў, а наогул людзей.

У Гайнаўцы жыве сабе мгр інж. архітэктар **Багуслаў Кастшэўскі.** Мае рэдкае наогул «гобі» — збірае этыкеткі карабкоў ад запалак. Называецца гэта філюменістыкай. Аж з 11 краін мае мгр **Кастшэўскі** этыкеткі. Галоўным чынам з прыроды. Краіны — між іншым, Індыя, Партугалія, Японія і СССР. Таварыства прыяцеляў Белавежы знайшло магістра **Кастшэўскага** і яго скарб і зрабіла першую ў Белавежы філюменістычную выстаўку.

Рэч другая. ТПБ разам (увага!) з Грамадскай радай нарадовай у Дні арганізавала канцэрт у Белавежы. Выступалі два аркестры з Музычнай сярэдняй школы з Беластока. У першай частцы былі творы **Моцарта,** у другой — творы польскіх, беларускіх і рускіх кампазітараў у выкананні духавога аркестра. (вл)

---

## Студэнцкія і лялькавыя тэатры

Два агульнапольскія фестывалі адбыліся ў Беластоку: **агляд студэнцкіх тэатраў медыцынскіх акадэмій і IV фестываль лялькавых тэатраў Усходняй Польшчы.**

З першага агляду варта адзначыць студэнцкі тэатр сатыры з Лодзі «Цытрына». Здабыў ён ужо многа ўзнагарод, на беластоцкім аглядзе ўзяў таксама першае месца пастаноўкай «Містэрыі Буф» Уладзіміра Маякоўскага.

Лялькавыя тэатры прыехалі з Познані, Кельцаў, Жэшова, Любліна і Рыекі з Югаславіі. І тут не абылося без Маякоўскага. Познаньскі «Марцінэк» паставіў яго «Лазню». Было гэта прадстаўленне для дарослых, бо некаторыя лялькавыя тэатры працуюць з дарослымі гледачамі. (вл)

---

# СЕЛЬСКІЯ МЕХАНІЗАТАРЫ

Механізацыя з'яўляецца адной з галін **інтэнсіфікацыі** сельскай гаспадаркі. Механізаваць нашу вёску — справа не лёгкая. Фонд развіцця сельскай гаспадаркі, які стварыла дзяржава, з'яўляецца асноўным матэрыяльным стымулам механізацыі, але не толькі ён адыгрывае ролю. Быў час, калі быў фонд, але машыны і трактары стаялі на пляцах у ПЗГС. Сёння прынамсі ў Бельскім павеце іх раскупілі і ёсць запатрабаванне на большую колькасць.

Але надта хуткі працэс механізацыі прынёс пэўныя і некарысныя з'явы, з якімі зараз трэба змагацца, а адначасова знайсці такія формы працы, якія пазбегнуць недахопаў. Недахопы — гэта перад усім т. зв. **тэхнічныя тылы**. Хутка прыбываючых трактараў і машын не было дзе на вёсках схаваць ад ветру, дажджу і марозу. За кожным дробненькім рамонтам трэба ехаць у ПОМ або клікаць тэхнічную дапамогу ПОМ. Вынікі бываюць і такія, напрыклад, у **Кнарыдах** зараз стаіць два трактары пад голым небам заржаўленыя і сапсаваныя. На рамонт сельгасгурток не мае грошай таму, што дрэнна гаспадарыў. Новае праўленне сельгасгуртка дамагаецца, каб забралі старыя трактары (якія пасля рамонту могуць яшчэ працаваць) і дазволілі кнарыдаўцам купіць новыя. Гэта добра. Толькі два пытанні ў адрас кнарыдаўскіх дзеячаў: 1) хто забярэ сапсутыя трактары? 2) ці пры такой гаспадарцы нашыя фабрыкі паспеюць забяспечыць у адпаведную колькасць трактараў?

Каб магчыма найлепш дбаць і выкарыстоўваць закупленыя сельгасгуртком машыны і абсталяванні арганізуюцца **міжгурткоўскія базы сельскагаспадарчых машын.** У Бельскім павеце пакуль што існуе адна такая база ў **Аўгустове.** Створана яе дзеля эксперыменту ў пэўным сэнсе. Аўгустова — гэта вёска, якая мае больш 3 тысяч гектараў зямлі, а тым самым найвялікшую колькасць на Бельшчыне. Базу арганізавана тут ад 1 красавіка 1966 года. А вось што паказвае баланс за 1966 г. Маёмасць базы — 1.369 тысяч зл. Даходы — 472 тысячы зл. Сярэдняя колькасць перапрацаваных адным трактарам гадзін — 994, калі сярэдняя ў павеце 828. У час нашага візіту толькі адзін трактар (на 11 штук) быў на пляцы рамантаваны трактарыстам Янам Бужынскім. Апошнія працавалі на палях Аўгустова, Вароняга ці Шастал.

— Гэта не ўсё, — гаворыць **Павел Асташэвіч,** старшыня рады карыстальнікаў базы. — Падыйдзем за вёску, дык пакажу вам, як мы разбудоўваем тэхнічныя тылы базы. Кошт інвестыцыі, якая мае быць закончана ў гэтым годзе — 1.340 тыс. зл. Будзе тут памяшканне на бюро, але перш за ўсё гаражы на трактары і рамонтныя майстэрні. Тады яшчэ павялічыцца колькасць машын...



**На будове «тэхнічных тылаў» базы Аўгустова.**

Сапраўды так будзе. Але ці хопіць усім машынам работы на палях багатага Аўгустова? Здаецца, што не. А сельгасгурткі ў Стрыках і Малінове не хочуць падняць пастановы аб прылучэнні да базы ў Аўгустове. Чаму? Хіба не дазваляюць амбіцыі лакальнага патрыятызму (дарэчы кажучы неабгрунтаванага пераканаўчымі аргументамі).

Павятовыя ўлады ў Бельску плануюць у далейшым весці канцэнтрацыю сельскагаспадарчых машын і трактараў у павеце. Дае гэта магчымасці лепшага выкарыстання, і як паказала Аўгустова — даход. Але тут неабходна добрая воля і зразуменне актыву і членаў сельскагаспадарчых гурткоў.

**А. Карпюк**
фота аўтара

---

**(Працяг са стар. 1)**

## СЛЕДАМ РАМІЗЫ

на сцэне, іхні калектыў выступае часта. Цяпер рыхтуе на 7 мая (бо одпуст) літоўскую п'есу ў перакладзе на польскую мову. Звяртаюцца да мяне. «Пастарайцеся нам беларускую». Прабую прыпамінаць, што ёсць крыху выдадзеных Галоўным праўленнем БГКТ. А яны: «Мы ўжо ўсе іх перайгралі, хочам новых». Што рабіць? Абяцаю, але што рабіць?

Традыцыі тэатральнага гуртка ў Дубічах ідуць ад 1944 года. Тады рэарганізавалася стража (была да вайны). Тады адразу паставілі п'есу. Першыя людзі, першы гурток: **Арцём Чыквін, Міхась Чыквін, Раман Чыквін, Якуб Грыгарук, Дзмітры Апанасюк, Іван Герасімюк.**

Аб цеснаце мова ішла ў клубе. Выйшаўшы на двор, даведваюся, дзе і як дабудаваны будзе гараж да рамізы, а той, што ёсць, заменіцца ў чытальню і бібліятэку.

З вялікага падарожжа ў пошуках стражацкай культуры засталася нам Палічна. За сваю культурную дзейнасць тутэйшая стража атрымала ваяводскую ўзнагароду — адаптар «Бамбіна». Гэтая культурная пляцоўка прымала ўдзел у конкурсе «Вёска бліжэй тэатра». І за гэта была ўзнагароджана. Дарога сюды доўгая і нялёгкая. Едучы, бачым новую магістраль у будове, але пакуль дабіраемся даслоўна ляснымі трыбамі. Прыгожая раміза, велічная, новая. У акне бібліятэкі паведамленні аб конкурсе «Нівы». Прыемна! За хвіліну знаёмімся і з бібліятэкаркай **Любай Баравік.** Гаворым праз плот. Няма часу.

Чуем на ад'ездным, што Люба хацела ставіць «Паўлінку», але падвялі хлопцы. Што і ў Палічнай і ў суседняй Белай Стражы ёсць сілы і ахвотныя на хор. Каб хоць які інструктар зрабіў пачатак! Сама Люба трымае ў руках аловак, бо яна таксама бухгалтар у сельскагаспадарчым гуртку і робіць якраз падлікі. Падвечар адкрывае бібліятэку ў рамізе. Вяртаюцца з поля людзі. Раміза ажывае.

**Вера Леўчук**



 




У канадскім горадзе Манрэаль адкрылася сусветная выстаўка. Праходзіць яна пад лозунгам «Зямля людзей». Амаль усе краіны свету паказваюць на выстаўцы ўсё, што ў іх найлепшае. У Савецкім павільёне (ён са сталі, алюмінію, бетона і шкла) знаходзіцца звыш 6-ці тысяч экспанатаў, якія адлюстроўваюць 50-цігадовы шлях СССР. У экспанатах знаходзяць адлюстраванне ўсе галіны савецкай прамысловасці абучэнне, насельніцтва, ахова здароўя, паказаны макеты новых гарадоў, асабліва тых, якія нядаўна ўзніклі на Запаляр'і — у зоне вечнай мерзлаты і безупынных мяцеліц.

Шырока экспануюцца навейшыя дасягненні савецкай тэхнікі і навукі. Перш за ўсё мірнае асваенне космасу і ядзерная прамысловасць. Можна пабачыць макеты аўтаматычных касмічных станцый «Пратон» і «Луна — 9», якая першая мякка апусцілася на Месяц і першая даставіла здымкі яго паверхні. Паказаны тут спадарожнік «Молнія—1», пры дапамозе якога была ўстаноўлена перадача тэлевізійнай праграмы з Масквы ва Уладзівасток. Дакладная копія касмічных караблёў серыі «Усход» дазваляе пазнаёміцца наведвальнікам з умовамі, у якіх савецкія касманаўты адпраўляюцца ў «прагулкі» вакол нашай планеты.

Сярод старэйшых «братоў» касмічных ракет асабліва зацікаўленне выклікае 12-ціметравай даўжыні мадэль найвышага савецкага рэактыўнага самалёта «ТУ—144», які ўмяшчае 120 пасажыраў і разгортвае звышгукавую хуткасць. Напрыклад, адлегласць між Масквой і Манрэалем адольвае ён без пасадкі на працягу 3,5 гадзін. (Так, як цягніком з Беластока ў Варшаву).

Квантавая тэхніка — гэта дзіцё апошніх гадоў. Яе прадстаўляюць на **«Экспо 67»** розныя роду і прызначэння лазерныя ўстаноўкі, пры дапамозе якіх можна, як масла, рэзаць сталь і граніт, ды праводзіць звышдэлікатныя аперацыі вачэй, або змерыць у кожную хвіліну адлегласць Зямлі ад Месяца з дакладнасцю да 120 метраў. У касмічных прасторах гэта больш чым аптэкарская дакладнасць.

Завяршэннем ілюстрацыі дасягненняў СССР з'яўляюцца макеты атамных электрастанцый, а сярод іх — гэтай першай у свеце, пабудаванай у горадзе Обненск.

На выстаўцы ў Манрэалі можна купіць шматлікія савецкія сувеніры, сярод якіх знаходзяцца «вучоныя» лялькі. Яны абяспечаны мініяцюрнымі магнітафонамі, гавораць па-англійску, вітаюць наведвальнікаў. (а-вр)



## „Najdroższa"

25 красавіка г.г. познаньская тэлевізія прадэманстравала ў агульнапольскай праграме беларускі фільм — «Najdroższa» (польская яго назва). Зроблены ў 1965 годзе. Належыць ён, відаць да ліку фільмаў, робленых «пад Антаніёні» — аб чым гаварылася на апошнім з'ездзе беларускіх кінематаграфістаў.

І сапраўды, у гэтым беларускім фільме шмат зацікаўляючых кадраў, насычаных маляўнічымі дробязямі і дзіўным настроем. Мімаволі, прыпамінаецца фільм «Зацьменне» Антаніёні. Аднак настрой, тэмперамент, словам атмасфера ў фільмах Антаніёні вельмі італьянская і таму самабытная.

Маецца ўражанне, што ў беларускім фільме як бы жыўцом скрыжавана творчыя прыёмы-манеры: антаніёнеўскую з традыцыйна савецкай. Адсюль той дзіўны настрой, у якім шукаеш рэфлексійна-філасофскага падтэксту, але раз-пораз натыкаешся на публіцыстыку. Публіцыстыку, распісаную на маналогі і дыялагі, што ўрэзваюцца ў вуха, як лозунгі (барацьба супроць хабарніцтва, палахлівасці, мяшчанскага стылю жыцця). Здаецца, што гэты фільм меў магчымасць унесці нешта мастацка новае — гэта начныя сцэны ля нейкага гераічнага помніка, у падножжа гараць як бы свяшчэнныя агні, закаханая пара грэе над імі рукі, навокал пустка. Гэтыя сцэны, хаця і не развітыя, застаюцца ў памяці і пачуцях.

Сюжэт фільма прыблізна такі: адукаваная дзяўчына знаходзіць працу маляра, адкідае ўрадніцкую кар'еру. Пакахала яна Валодзю, таксама маляра, адкінула залёты журналіста з «Волгай» і нейкай вілай за Мінскам. Шэф маляроў — хабарнік, шантажыст і мешчанін, хаця і заслужаны ўвайну. Ён, безумоўна, бязлітасна выкрыты маладымі, у чым немалая роля другога заслужанага але ўчцівага чалавека. Акцёры як бы спяшаюць усё сказаць, што толькі можна сказаць аб подласцях, да якіх можа быць здольны чалавечая душа — такім чынам напраўду бязлітасна ламаючы канструкцыю настрою фільма, тым больш беларускага. Зрэшты, аб беларускасці гэтага фільма, як самабытнасці, даволі цяжка гаварыць. Занадта ён «універсальны».

А сваёю дарогаю не магу ніяк зразумець, чаму ў польскіх, чэшскіх ці савецкіх фільмах паказваюць журналістаў, як людзей праводзячых бесклапотнае жыццё, ба, нат' раскошнае. Наколькі мне вядома — не толькі з уласнага вопыту — журналісты наогул небагаты народ і прытым цяжка даецца ім усмешка жыцця.

**С. Яновіч**

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ

# У ЮГАСЛАВІІ

Апошняе пленарнае пасяджэнне Саюза камуністаў Югаславіі прысвечана было перад усім т.зв. «моўнай праблеме». Праблема пачалася ад таго, што ў сакавіку гэтага года васемнаццаць навуковых і культурных арганізацый Харватыі падпісала т. зв. «Дэкларацыю аб названні і сітуацыі харвацкай літаратурнай мовы» і пераслала яе ў парламенты Харватыі і Югаславіі. У дэкларацыі сцвярджалася, што «ў практыцы літаратурная сербская мова ў сапраўднасці і сілаю накідаецца як адналітая мова сербаў і харватаў».

Для яснасці трэба паінфармаваць, што два народы Югаславіі: сербы і харваты маюць мову вельмі падобную, на гэтай базе гістарычна фармавалася адзіная серба-харвацкая літаратурная мова. Разрозненні ў літаратуры сербаў і харватаў датычылі арфаграфіі і часткова вымовы. Дэкларацыя харвацкіх вучоных і дзеячоў культуры, а наступна контрдэкларацыя сербскіх пісьменнікаў зрывалі існуючую звыш сто гадоў моўную унію сербаў і харватаў. Пагражала гэта адначасова адзінству народаў Югаславіі, якое фармавалася між іншым на базе блізкасці іх культуры і мовы. Таму ў Югаславіі пасля падпісання ўспомненых двух дэкларацый разгарнулася бурная палітычная кампанія супраць аўтараў дэкларацыі, у якую заангажаваліся высокія партыйныя і дзяржаўныя ўлады з прэзідэнтам Ціта ўключна. Адначасова абарона дэкларацый набрала характару вострага выступлення супраць партыі і яе палітыцы.

У апошні час югаслаўскі друк пачаў аналізаваць прычыны ўзнікнення ў краіне канфлікту нацыянальнага характару. На думку югаслаўскіх газет, звязана гэта з шырока планаванымі рэформамі накіраванымі з аднаго боку супраць дрэнна працуючых гаспадарчых адзінак, а з другога боку — супраць палітычнай бюракратыі. У ходзе рэформаў многа высокапастаўленых людзей мусіць развітацца з пасадамі і прывілеямі. Выкарыстоўваючы яны, на думку югаслаўскага друку, нацыянальныя моманты для падрывання даверу да палітыкі партыі. Такім чынам корні новага нацыяналізму югаслаўская грамадская думка бачыць у палітычнай бюракратыі. (п)




**ТОЛЬКІ ПАЧАТАК**

— Хто вы такі? — спытаў Віхра чалавек у цывільным, калі ў поўдзень яго прывязлі ў Кракаўскае ўпраўленне гестапа. Віхор зразумеў пытанне — ён ведаў нямецкую мову, але нічога не адказаў, а толькі ўсміхнуўся і паціснуў плячыма. Тады другі чалавек, доўгі, жылісты, той, што трымаў яго партфель пры арышце ў лесе, падышоў да Віхра і спытаў па-руску:

— Вам патрэбны перакладчык?

— Я не разумею па-нямецку, — сказаў Віхор, — дакладней, разумею вельмі слаба.

— Вас пытае шэф аддзела, хто вы такі?

— Попка, Кірыл Аўкенцевіч.

Доўгі пераклаў. Тады шэф аддзела III-А папрасіў:

— Раскажыце аб сабе.

— Вас просяць расказаць аб сабе.

— Я гатовы. Попка я, Кірыл, украінец. З Днепрадзяржынска. Бацька сеяў разумнае і вечнае, маці была членам бюро райкома. Яе расстралялі ў трыццаць сёмым.

— Хвілінку, — сказаў доўгі і пераклаў усё сказанае Віхрам свайму шэфу.

Віхор адзначыў для сябе, што перакладчык немец дакладна, слова ў слова.

— Працягвайце.

— Працаваў грузчыкам, таму што ў інстытут не прыймалі, самі разумееце. Потым служыў у арміі. Здаўся пад Кіевам. Сядзеў у вашым фільтрацыйным лагеры 56-а. Пасля працаваў у млыне. Адступіў з нямецкай арміяй у Львоў. Цяпер іду ў Кракаў, хачу тут уладзіцца на чыгунку.

— Хвілінку, — папрасіў доўгі і пераклаў усё шэфу.

Той слухаў, усміхаючыся.

— Дасканала, — сказаў ён. — Няхай раскажа сваю гісторыю яшчэ раз, толькі больш падрабязна.

— Я нарадзіўся ў Днепрадзяржынску, у сямнаццатым годзе. З інтэлігентаў, маці расстралялі чакісты, бацька — настаўнік, забіты ў сорак трэцім годзе пад бамбёжкай. Працаваў грузчыкам, служыў у арміі ў кіеўскай ваеннай акрузе. Здаўся ў палон пад Белай Царквою. Працаваў на днепрапятроўскім млын-заводзе памочнікам начальніка мукамольнага цэха. Адступіў у Львоў з войскам.

Шэф выслухаў Віхра, памахаў доўгаму рукой — маўляў, перакладаць не трэба і папрасіў:

— Ну, раскажыце вашу сумную гісторыю яшчэ раз. Пакуль вы адчуваеце сябе скаваным і прызмерна дакладна паўтараеце завучаны вамі тэкст.

Доўгі пераводзіў словы шэфа, а Віхор у гэтыя секунды намагаўся знайсці вытлумачэнне двум галоўным пытанням, якіх яму яшчэ не задавалі, але зададуць абавязкова: адкуль у яго партфель, пісталет і гранаты.

— Вы не верыце мне? — спытаў Віхор, калі доўгі пераклаў словы шэфа.

— А вы сабе верыце? Самі вы сабе верыце? — пытаў доўгі.

— Я не разумею... — усміхнуўся Віхор. — Можна падумаць, што я нешта нарабіў. Мой аўсвайс у поўным парадку, у партфелі павінны ляжаць характарыстыкі з работы, падпісаныя вашымі людзьмі...

Ён успамянуў пра партфель, чакаючы адразу ж пытання аб зброі, але памыліўся.

— Я шчыра шкадую сапраўднага Попкі, — сказаў шэф. — Аўсвайс сапраўдны, мы праверылі. Гісторыя Попкі таксама праўдзівая. Але мяне цікавіць, якія вы маеце адносіны да пана Попкі? Сапраўдны Попка цяпер жыве ў Брэслаў, на Моцартштрасе, 24, у бараку рабочых, якія працуюць на фабрыцы піва.

«Груба працуе, — вырашыў Віхор, — Попка сядзіць у нас».

— Або гэта мой аднафамілец, — сказаў Віхор, — або вас уводзяць у зман.

— Паслухайце, — сказаў шэф, — я бачу, як вы напружана чакаеце таго моманту, калі я пачну пытаць вас аб парабелуме і гранатах. Вы ўжо падрыхтавалі версію, відавочна, зусім праўдападобную: маўляў, пісталет знайшлі ў час адступлення і гранаты таксама. Вы, відаць, пачнеце гаварыць, што гэта зброя была неабходна для асабістай бяспекі, — усё гэта мне зразумела. Я не буду вам марочыць галаву. Я вам зараз пакажу ваш парашут і адціскі вашых пальцаў на шоўку.

— Тут якаясь крыўдная памылка, пане начальнік.

— Не трэба. Вас скінулі ноччу, і вы закапалі свой парашут пад дзвюма соснамі, ці не? І яшчэ мурашнік разбурылі — вялікі мурашнік. У цемры, відавочна, упалі проста ў мурашнік.

Віхор адчуў, як у яго змярцвелі рукі — ён сапраўды ўпаў у мурашнік.

— Пашлі, пашлі...

І яны пашлі ў вялікую залу. Тут ляжаў яго парашут. Віхор прымусіў сябе ўсміхнуцца.

— Не ваш? — спытаў доўгі. — Вядома, не ваш?

— Вядома, не мой.

— Ясна.

Яны вярнуліся ў кабінет шэфа. Той моўчкі кінуў Віхру на некалькі лісткоў паперы з адціскамі пальцаў. Віхор паглядзеў на гэтыя паперкі і сказаў:

— Я ў гэтай хітрасці нічога не разумею.

— Ад вас і не патрабуецца нічога. Проста паглядзіце: тут вывады нашых экспертаў. Гэтага дастаткова, каб пастраляць вас сёння ж.

— Ад такіх жартаў скура дрантвее...

— А нам не да жартаў.

Шэф аддзела III-А закурыў і, сеўшы ў крэсла насупраць Попкі, загаварыў:

— Слухайце мяне ўважліва: цяпер не першы год вайны, а чацвёрты. Час паскорыўся, і ў нас няма магчымасці трымаць вас у камеры і распрацоўваць

# ПРА ЖОНКУ

Я стаю недалёка ад іх і раблю выгляд, што чытаю газету... А яны — размаўляюць. Дакладней, гаворыць Гарлюк, а слухае яго халасцяк Антанюк і... я. Размова для мяне вельмі непрыемная. Мусіць, Гарлюк проста мяне не заўважае, таму ён так нахабна разводзіць плёткі пра маю жонку.

— Разумееш, муж затрымаўся на працы, прыходзіць дадому стомлены, разбіты, марыць адпачыць, а яна яшчэ з парога пачынае яго лаяць: «Позна прыходзіш, пра сям'ю не думаеш, па гаспадарцы не дапамагаеш...» І шпарыць, і шпарыць! Як тая пчала — ж-жу, ж-жу... Ну, што застаецца рабіць беднаму мужу? Хутчэй за авоську ды і ў магазін.

Гарлюк стаіць да мяне спіною. Я не бачу яго твару, але я добра бачу вясёлую ўсмешку Антанюка і ледзь стрымліваюся, каб не абарваць нахабніка. Якое права ён мае ўмешвацца ў маё сямейнае жыццё?

Калі што і прымушае мяне стаяць на месцы, дык толькі, жаданне пачуць усё да канца. А потым...

— Ну, у магазіне, скажам, сустрэўся тавашыш. Запрасіў выпіць піўка. Выпілі. Слова-другое, да пабачэння — і з пакупкамі дамоў. А дома, думаеш, падзяка за паслугу ад жонкі? Піў, шэльма? Дык вось як ты спяшаешся да жонкі, алкаголік няшчасны! Так прама і чэша — алкаголік...

Газета дрыжыць у маіх руках. Яшчэ хвіліна — і я, далібог, не вытрымаю. Я так пагавару з гэтым Гарлюком, што будзе памятаць да новых венікаў. Бач, пляткар... Хай мы разам працуем, сустракаемся за святочным сталом, але хто табе дазволіў пускаць розныя чуткі пра маю жонку ў калектыве? Аб сваёй гавары...

— А калі б ты ведаў, якія бурныя дэбаты наладжвае гэтая жоначка ў начны час! Усё ёй мала — і пасада ў мужа маленькая, і кватэра не ў цэнтры горада, і знаёмствы час заводзіць сур'ёзныя, каб... Як прачытае акт абвінавачвання — дзецца няма куды! Пракурор! Адзін ратунак — махнуць у камандзіроўку...

Халодны пот выступае ў мяне на ілбе — усё, усё ведае! І адкуль толькі ў Гарлюка такія дакладныя звесткі? Як ён пранюхаў? Дзякуй богу, хоць пра рэўнасць жончыну не ведае...

— Ну, а раўнівая — хоць да жанчын наогул не падыходзь! Аднойчы такое выкінула...

Тут Гарлюк нахіляецца да Антанюка і нешта таямніча шэпча. Цьфу, толькі гэтага яшчэ не хапала! Балбатун праклялы... Няўжо расказвае пра тую сцэну рэўнасці, калі жонка прыгразіла мне разводам? Ну, даражэнькі, гэта я ўжо не сцярплю! Адчуваю, як кроў прылівае да твару. У злосці камячу газету і раблю крок да Гарлюка.

Але ў той жа момант Гарлюк сам паварочваецца да мяне і пытае:

— Ты, напэўна, чуў, як я тут пра сваю жонку гэтаму халасцяку для навукі распісваў? Бачу, спачуваеш? Канешне, табе можна пазайздросціць... У цябе жонка — анёл...

Я нічога не кажу. Я толькі сумна ўсміхаюся і выціраю рукавом мокры лоб.

**Яўген Каршукоў**

# НІЎКА



— У нядзелю да гэтага рыбака заедзем на рыбу!

### РАПАРТ

Пан пад наглядам старшага конюха адсылаў свайго любімага каня на выстаўку. Па дарозе жарабец здох, і конюх рапартуе пану:

«Міласцівы пан, сівы жарабец здох, скуру вашу панскую здзёр і прадаў, а за грошы для вашай міласці хамут моцны купіў, аб чым данашу і шчыра дзякую».

### НЕ

— Вы гаворыце, калі спіце?

— Не, доктар. Я гавару, калі іншыя спяць. Я прафесар і чытаю лекцыі.

### ПА АДРАСУ НЕ ДОЙДЗЕ

Нейкі бяздарны, але ганарысты паэт прынёс Вальтэру свой твор пад гучнаю назваю «Да нашчадкаў» і спытаўся, якой ён думкі пра гэты верш.

Вальтэр прачытаў і сказаў:
— Нічога сабе, толькі думаю, што па адрасу ён не дойдзе.



— Ну дык за наша здароўе!




## ДУМКІ ЯСЬКІ і АПАЛОНІКА

З найчарнейшых акордаў жыцця можна вылавіць адгалоскі вялікай прыгажосці.

*

Нават сілач Геракл меў у жыцці хвіліны людской слабасці.

*

Шчаслівы той чалавек, які ніколі не ведаў няшчасця.

*

Каб ва ўсіх людзей быў аднолькавы пункт гледжання, то не было б столькі разыходжанняў!

*

Пыха горш слепаты, бо чалавек свядома не бачыць таго, што ўсім кідаецца ў вочы.

### ДОБРА

— Колькі каштуюць гэтыя яйкі?
— Пятнаццаць злотых за дзесятак, ну а пабітыя магу аддаць вам па дзесяць.
— Добра, набіць мне сотню.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ані Бальга і Тамары Васілюк з вёскі Цялушкі, Бельскага павета, змяшчаем песню п.з.

## Żeby choć raz

Muzyka: Krzysztof Sadowski
Słowa: Andrzej Kudelski




Żeby choć raz,

spadł z nieba księżyc wprost do naszych rąk
niby w srebrze czekoladka żeby spadł.

Żeby choć raz

móc wszystkie kwiaty zebrać z wszystkich łąk
żeby móc je przynieść komuś chociaż jeden raz.

Dla chcącego wierzcie to nie trudna rzecz.
By co kolwiek zdobyć trzeba tylko chcieć.
Lecz kto chciałby czekać aż się spełni cud,
długo czekać by mógł.

Żeby choć raz

numerki toto-lotka z góry znać
niby Pytia przepowiedzieć jeden raz.

Żeby choć raz

uwierzyć, że naprawdę chcieć to móc
że wszystko jest możliwe, że to nie cud.

Dla chcącego wierzcie.... itd.

# КУРЁЗЫ

### Сакрэт трывалага шлюбу



Італьянская акцёрка Клаўдзія Кардзінале знайшла нарэшце ключ да загадкі стагоддзяў і дае рэцэпт шчаслівага сямейнага жыцця. «Пасля таго, як мы пажаніліся, муж і я раз'ехаліся па розных дамах і жывём асобна. Я перакананa, што большасць шлюбаў канчаюцца разводам з-за таго, што муж і жонка занадта добра ведаюць адзін аднаго. Сум смяротны для кахання і сумесная жыцця. Часам мы сустракаемся, каб разам паснедаць або паабедаць».

### Акула з блакітнымі вачыма

Яшчэ да таго, як Вільсан стаў прэм'ерам, адна амерыканская газета напісала аб ім: «Ён выглядае лагодным, пакуль не паглядзіць на вас сваімі светла-сінімі халоднымі вачамі, як у акулы». Неўзабаве ў рэдакцыю прыйшлі сотні пісьмаў, аўтары якіх сцвярджалі, што ў акулы не бывае такіх вачэй.

### Перадумаў

Ахова адной з бразільскіх турмаў была вельмі ўражана, калі зноў убачыла ў камеры зняволенага, які збег напярэдадні. Арыштант так растлумачыў сваё вяртанне:

«Зараз так цяжка жыць сярод тлуму, што я адразу засумаваў па турэмнай цішыні і вярнуўся сюды».




Гарэлка, хаця і не тлушч, але для справы часта з'яўляецца добрай падмазкаю.